# ВЕДА VEDA

Навукова-Літаратурны месячнік

Выдаець Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны



Kryvian (Whiteruthenian) Scientific and Literary Monthly
Published by Francis Skoryna Kryvian (Whiteruthenian) Society of Arts and Sciences in the U. S., Inc.

Address: 6 Vandervoort Place, Brooklyn 37, New York, U. S. A.

1952, ліст.-сьнежань. Ц. 60 ц. № 11-12 (16-17) Novem.-Decem. 1952.

## ТРАҐЕДЫЯ ЗЬ НЯСЬВЕДАМАСЬЦІ

(зь гісторыі Беларусі XIX-XX стагодзьдзяў)

Напісаны гэты артыкул пад даймом павесьці Флярыяна Чарнышэвіча „Nadberezyńcy", напісанай папольску, выданай у 1942 г. Галоўныя падзеі апісаныя ў гэтай павесьці, адбываліся ля Бярэзіны, прытокі Дняпра, асабліва км. 20-25 ад Бабруйска, здэцца на поўнач; пэрыфэрыйная прастора гэных падзеяў дакраналася Бялыніч а Магілева. З пад Бярэзіны паходзе й сам аўтар павесьці, ён-жа адзін із ейных герояў. Спачатку аўтар напісаў свой твор як успаміны, пасьлей перарабіў успаміны на хроніку, а гэтую на павесьць.

Я ня думаю разглядаць „Надбярэзінцаў" з гледзішча літаратурнага, але вылучна з гледзішча адбітага ў ім мясцовага жыцьця. Жыцьцё гэтае не паказана ў цэлай паўніні ў твору Чарнышэвічавым. Але ён войстра й моцна намаляваў найбалючшую рану гэтага жыцьця — ходаньне часьці Беларусаў-каталікоў, у даным прыпадку ідэялеґічна-споленізаванай і актыўнай у польскім прасьцінку беларускае шляхты зь Беларусамі праваслаўнымі. Траґічным мамэнтам гэтага ходаньня ё тое, што шляхта

 

выступае як Палякі, а праваслаўныя Беларусы, будучы таксама нацыянальна нясьведамымі, уважаюць сябе дзеля веры „рускімі”, паміж іх ё і адзінкі ідэялеґічна, рэдка й этноґрафічна, зрусыфікаваныя, каторыя й высовуюцца з праваслаўнага боку на чало ў гэтым ходаньню.

Прывяду да ілюстрацы два зыркія мамэнты гэтага ходаньня. Грап із вялікіх лесавых прастораў маў мала карысьці, дзеля таго ахвотна аддаваў дзялёнкі лесу на выцярабленьне й замену на ралейную гаспадарку, першыя гады дарма, а пасьля за меншую плату. З гэтага скарыстала радзіма шляхціча Белашэвіча і цяжкой працай вырабіла сабе ў лесе харошую гаспадарку. Але лес абцяжараны быў сэрвітутам і, гэткім парадкам, права сяла або сёлаў было ўзрушана; невялікая, здэцца, была крыўда матар’яльная, бо лес быў вялізарны, і кавалак на гаспадарку мала значыў, але яўная была крыўда праўная. Гэтае крыўды не адчуваюць ані Белашэвічы (яны кажуць сялянам: „Ці ня до вам лесу!”), ані аўтар. Сяляне, асабліва маладзеж уходзяць за сваю крыўду: яны ўсілствам гоняць статак пасьціць на сенажаць і засеяньне Белашэвічаў і самых іх хочуць прагнаць із гаспадаркі. Адбываюцца крывавыя бітвы, ледзь не да сьмерці. Вось які абраз падаець аўтар: „На перадзе йшлі рэдка па двух, па трох, крычачы й махаючы каламі задзіракі — ...у белых зрэбных кашулях пабеларуску навыпуск, прыбраных на каўняру й грудзёх зялёна-чырвоным вышываньням, падперазаўшыся пярэстай, плеценай ушыркі на паў вяршка тасемкаю зь вісячымі на левым баку кутасамі, у белых нагавіцах і лапцёх саракавушках із раменнымі аборамі. За імі сунулася па грэблі шчытная грумада; адзеўшыся былі траха ўсі таксама, на плячох дзяржалі роўна аднолькавыя калы і з воддалі былі падобныя да роты войска. Шмат із паміж іх былі выраслыя дзяцюкі з вусікамі, але бальшыня маладзёны яшчэ перад войскам, хоць ужо ў сіле. Далей плыў падвойны й даўгі без канца шнюр дзяўчат і хлапцоў конна. У бару, за якой паўвярсты грала пастуская труба скочную „Лявоніху”, паказуючы, што за гэтым усім плывець стада статку”.

Нападаючыя лаюць Белашэвічаў „Ляхамі” (не Палякамі?), а гэтыя іх завуць „рускімі”.

Другі абраз. У школе зрусыфікаваны вучыцель Грывень усімі спосабамі стараецца прышчапіць „рускім”, зн. праваслаўным Беларусам расійскі патрыятызм і ўзбудзіць у іх нянавісьць да „палякоў”, зн. Беларусаў-каталікоў, у даным прыпадку шляхты. „Польскую” веру гэтых ён абярняся высьмеявае. Дык і тут маем войстрае ходаньне „рускіх” із „польскімі”. Адноўчы вучыцель абясьціў вайну „рускіх” „інародцам”. Да гэтых належылі вучаньнікі „палякі”, „татары”, знач. беларускія мусульмане, і троху Жыдоў, — усіх разам каля 10%. Сілы былі ня роўныя. Жыды, ськеміўшы гэта, заявілі, што яны ня могуць ваяваць супроць „рускага народу” і хочуць быць на баку „рускіх”. Але гэтыя іх не прынялі. „Ня хочам вас!” крычэлі. „Дык мы здаемся ў палон!” заявілі Жыды. Хоць і палоненых, іх пабілі, але, ведама, ня так, як калі-б „ваявалі”. А „палякі” ледзь жывыя вышлі з гэтае „вайны”.

Магутным сяродкам полёнізацы быў Каталіцкі Касьцёл, а русыфікацы — Праваслаўная Царква й школа.

У гэтых ходаньнях „рускіх” із „польскімі” адныя далей русыфікаваліся, а другія поленізаваліся. Зьява жахлівая, тым жахлівейшая, што й сам аўтар „Надбярэзінцаў” бярэць у ёй дзейнае ўчасьце і як адзін із „польскіх” герояў акцыі і як аўтар і цяпер неўсьведамляючы свайго хвальшывага становішча. Менаваныя здарэньні былі перад першай сьветнай вайною.

Старшыя чытары скажуць: „Нашто гэта пісаць? Што тут новага? У нас было падобна”. Дыкжэ ў гэтым і асаблівая траґедыя, што блізу ўсюдых у Беларусі было падобна, хоць ня ўсюдых аднолькава. Там, дзе Беларусы-каталікі жывуць масаю, яны, нат нацыянальна нясьведамыя мала паддаваліся паленізацы; затое, расьцярушаныя сярод праваслаўных, адчуваюць сваю ад іх апрычонасьць і шмат болей паддаюцца польскім уплывам.

Як дайшло да апісанага стану, як сталася, што беларуская маса ўтраціла сваю нацыянальную сьведамасьць, падзялілася на „рускіх” а „польскіх”, ствараючы гэтым падаўкі ґрунт да русыфікацы й паленізацы?

У васьмінанцатым стагодзьдзю, у часе прылучэньня цэнтральнай а заходняй Беларусі да Расіі (усходняя — Смаленшчына, Севершчына а інш. — былі захопленыя ўперад — у 1667 г. і раней) усі наагул Беларусы свайго гаспадарства былі нацыянальна сьведамыя і жылі поўным сваім нацыянальна-культурным жыцьцём, дарма што Беларусь ня была тады ў цьвітучым, але ў палупалым стане. Адна толькі арыстократыя беларуская гаманіла та-

 

 

ды папольску, але й арыстократы знал беларускую мову; польская, як і француская, мова ў іх была моваю конвэнцыянальнай, таксама як у канцы стагодзьдзя асьмінанцатага і першай палавіцы дзевятнанцатага француская мова ў варыстократыі расійскай. Драбнейшыя панове, засьцянковая шляхта, мяшчане й сяляне гаманілі пабеларуску. Ян Чачот у першай палавіцы XIX стг. сьветча, што за яго маленства, зн. на пачатку гэтага стагодзьдзя, старыя панове любілі паміжсобку (а ня толькі з „простымі" людзьмі) гаманіць пакрывіцку. Выняткі з гэтага, як-бы яны ня былі чысьленыя, не мянялі агульнага стану.

Што да шляхты ў Беларусі, дык яна, як панове й арыстократыя, чыста беларускага паходжаньня. Беларусь пад назовам „Вялікае Княства Літоўскае" была і просьле Люблінскай вуні 1569 г. апрычоным і незалежным гаспадарствам, задзіночаным — на роўных правах — із Польшчаю толькі асобаю супольнага гаспадара. У задзіночаным гаспадарсьцьве беларускім — Вялікім Княсьцьве Літоўскім Палякі ня малі права займаць урады, не маглі яны таксама мацы зямельнае собскасьці. Дык і не магла перасяляцца да нас польская шляхта і не перасялялася, тым балей, што мала адчыненую дарогу на Ўкраіну, каторая ад 1569 г. была часьцяй польскага гаспадарства. У згодзе з гэтым у шляхты ў Беларусі ўсё чыста — фізычны тып, псыхіка, звычаі, прозьвішчы (часта тыпова беларускія на -іч, -овіч, -евіч) беларускія. Ня толькі польскі аўтар „Надбярэзінцаў" мае прозьвішча Чарнышэвіч, але ё йшчэ тры іншыя Чарнышэвічы беларускія пісьменьнікі а паэты, адзін із іх, Тодар Чарнышэвіч, нашаніўскі паэта, паходзе із Случчыны, значыцца сусед Флярыяна Чарнышэвіча. Побач із адным польскім поэтам А. Міцкевічам, беларускім шляхцічам із Наваградчыны, ё мноства іншых беларускіх Міцкевічаў, таксама як Сянкевічаў а іншых. Польская ідэялёгія часьці беларускае шляхты і польская мова яшчэ меншай часьці яе ё зьяваю часовай, пераходзячай.

Паняволіўшы беларускае гаспадарства, Расійцы пачалі ў ім жорсткае ўсебаковае перасьледаваньне Беларусаў і ўсяго беларускага. Перасьледаваньне гэнае на толькі было нягодным а страшным, што яго можна толькі прыраўнаваць да цяперашняга перасьледаваньня Беларусаў комуністычнай Расіяй. Я зьвярну тут адно ўвагу на два мамэнты гэнага перасьледаваньня, на тыя, што былі найшкаднейшыя.







Адным із іх была забарона дагэнулешняга нацыянальнага назову нашага народу „Літва", „Ліцьвіны" і накіданьне заміж яго назову „Беларусь", „Беларусы". Зрабілі гэта Расійцы, каб, з аднаго боку, наш народ сваім новым, накіненым яму назовам, выглядаў на нейкае адценьне рускіх, а, з другога боку, каб у гісторычнай сьведамасьці беларускага народу зрабіць перарыў, каб Беларусы не ўтажсамлялі сябе із сваймі прадзедамі, што зваліся Ліцьвінамі і вялі блізу бязупынныя войны з Маскоўшчынаю. Цяпер беларускія масы, чуючы, што расійская адміністрацыя, у школах і цэрквах завуць іх Беларусамі, а дагэнулешні іхны назоў „Ліцьвіны" тарнуюць да народу іншага, жмудзка-аўкштоцкага, здэзорыентаваліся і, ня прыняўшы, праўда, тады назову „Беларусы", сталі адвыкаць ад свайго назову „Ліцьвіны". Горш было з тымі, што вучыліся ў расійскіх школах. Яны былі пад большым уплывам расійскім і назоў „Беларусы" найчасьцей прымалі. Узноў дзякуючы гэтаму не знаходзілі свайго народу ў гісторыі, бо ён у мінуласьці дзеяў пад іншымі назовамі — спачатку пад назовам „Крывічы", а пасьлей „Літва, Ліцьвіны".

Дзеля менаванага ў беларускім народзе слабела, а потым чэзла нацыянальная сьведамасьць, хоць сьведамасьць нацыянальнае апрычонасьці ад сваіх суседзяў засталася. Тое-ж адабраньне собскага назову і накіненьне чужога перакажала ўзнаўленьню сьведамасьці пры помачы пазнаньня гісторыі свайго народу.

Другой найшкаднейшай рэчай было перасьледаваньне рэлігійнае. У часе паняволеньня Расіяй усі тры царквы ў Беларусі — Праваслаўная, Вуніяцкая й Рымска-Каталіцкая — з нацыянальна-культурнага гледзішча былі беларускія. Найпаўнейшае культурнае жыцьцё беларускае было ў Царкве Вуніяцкай, як дзеля таго, што гэтая царква ў васьмінанцатым стагодзьдзю ў беларускім гаспадарсьцьве мала найбольшую колькасьць вернікаў, так і дзеля таго, што арганізацыйная й асьветная праца ў яе была пастаўлена вельмі добра спосабам заходне-эўропскім. Гэтая-ж царква рабіла найбольшае дабро беларускаму народу тым, што ў яе на высокім роўні было пастаўлена рэлігійнае й моральнае ўзгадаваньне. Усі дасьледаваньнікі і прыпадкавыяназіраньнікі (прыкладам пасьлейшыя этноґрафы) згодна сьветчаць пра высокую й суровую мораль у вернікаў Вуніяцкае Царквы.

Праваслаўная Царква, ведама, ад самага пачатку была ў Бе-

ларусі з культурнага гледзішча царквой беларускай нацыянальнай. Адылі з гледзішча арганізацыйна-асьветнага, рэлігійнага й моральнага ўзгадаваньня яна стаяла шмат ніжэй за Царкву Вуніяцкую. Прычынаю гэтага было тое, што Праваслаўная Царква ня мала таго моральнага й арганізацыйна-рэлігійнага й -культурнага апірышча, якім быў Рым Царкве Каталіцкай. Канстантынопаль, што быў праваслаўным заміж Рыму і ў свой час стаяў культурна вышэй за Рым, быў у 1453 г. заваяваны Туркамі. А з гледзішча моральнага Канстантынопаль ніколі не стаяў высака. Менаваныя заганы ў Беларускай Царкве Праваслаўнай і былі аднэй із найгалаўнейшых прычынаў задзіночаньня — вуніі гэтае Царквы з Рымам у 1596 г.

У часе паняволеньня беларускага гаспадарства Расіяй Беларуская Рымска-Каталіцкая Царква стаяла з гледзішча моральнага ніжэй за Царкву Вуніяцкую, а ня вылучана, што й за Царкву Праваслаўную. Відаць гэта з таго, што да Рымска-Каталіцкае Царквы належыла блізу ўся беларуская арыстократыя, а яна была ў васьміналцатым стагодзьдзю ў бальшыні ў моральным упадку (некаторыя думаюць, што пад уплывам здэмаралізаванага панства ў Польшчы).

Зь ліквідацай беларускага гаспадарства ў канцы асьмінаццатага стагодзьдзя была зьліквідаваная й апрычоная Беларуская Праваслаўная Царква, стала яна часьцяй Расійскай Праваслаўнай Царквы. Што гэта значыла, можна сабе прадставіць, калі зьвернем увагу, што яшчэ ў сямнаццатым стагодзьдзю ў Маскоўскім гаспадарсьцьве, галоўна на ягоных беларускіх землях, што ўперад былі забраныя Масквою, урадова было загадана паліць кнігі „литовской печати", зн. беларускага друку. Гэта былі беларускія праваслаўныя кнігі, тыя самыя кнігі подле якіх маскоўскі патрыярх Нікан рабіў паправу запсаваных царкоўных кнігаў маскоўскіх, ніякае „ереси" ў іх ня было; палілі іх адно за тое, што яны былі надрукаваныя Беларусамі і ў іх была беларуская мова, альбо — у царкоўна-славянскіх — беларускія моўныя асаблівасьці. Цяпер паленьне было расьцягнена на ўсю Беларусь, палілі ня толькі кнігі, але „палілі" і ўсі беларускія асаблівасьці ў Праваслаўнай Царкве ў Беларусі, найперш беларускую мову, каторая была ў Праваслаўнай Царкве забаронена і заміж яе прынукаю ўведзена мова расійская. Беларускае праваслаўнае духавенства было тэрорызаванае і часткава высылане; яго замянялі зрусыфікаванымі духоўнымі зь беларускіх земляў, уперад паняволеных Масквою, ды новымі гадунцамі расійскіх духоўных сэмінарыяў у Беларусі.



Рымска-Каталіцкая Царква ў Беларусі была з гледзішча культурнага ад самага пачатку таксама беларускай царквой нацыянальнай. З гледзішча нацыянальна-культурнага розьнілася яна ад дзьвюх іншых Беларускіх Цэркваў — Праваслаўнай і Вуніяцкай — толькі абрадам, да каторага належыла й лацінская мова ў багаслужбе. Духавенства ўлучна зь біскупамі ў яе было сьведамае беларускае. Беларуская мова панавала ў галіне адміністрацыйнай і ў казанях, ды пісалі агульна беларускай кірыліцаю. [1]) Дзеля таго што і ў Польшчы была Рымска-Каталіцкая Царква і Польшча ад XVI стг. культурна стаяла вышэй за Беларусь, то некаторыя польскія ўплывы праточаваліся да Беларускае Рымска-Каталіцкае Царквы, і беларуская арыстократыя, што з часам блізу ўся належыла да Рымска-Каталіцкае Царквы, усё болей а болей пераймала польскую мову. Але, пакуль было беларускае гаспадарства, былі гаспадарствавыя граніцы з Польшчаю, і польскія ўплывы ў Беларускай Рымска-Каталіцкай Царкве ня былі пагражаючымі. Палажэньне зьмянілася па прылучэньню Беларусі да Расіі, тады гаспадарствавыя граніцы з Польшчаю шчэзьлі, бо часьць Польшчы (конґрэсаўка — „царства польскае"), ад 1815 г., належыла да Расіі, засталіся адно граніцы епархіяльныя. Дарога польскім уплывам да Беларускай Рымска-Каталіцкай Царквы была адчынена. Дзякуючы таму, што Польшч культурна стаяла вышэй за Беларусь (між іншага дзеля таго, што была прылучана да Расіі на 20 год пасьльей за заходне-беларускія землі і на 43 г. пасьлей за землі цэнтральнае Беларусі ды Польшч у Расіі аж да 1863 г. мала аўтономію), дык польскія ўплывы да Беларускае Рымска-Каталіцкае Царквы маглі цяпер праходзіць, а ня толькі праточавацца. Але гэта йзноў ня было-б так страшным, калі-б заставалася Беларуская Вуніяцкая Царква, бо беларуская мова й далей ужывалася ў Рымска-

[1]) У архівах рымска-каталіцкіх парахвіяў знаходзяць багатую адміністрацыйную перапіску беларускай моваю кірыліцаю, між іншага, пра гэта паведамляў нябошчык кс. Стаповіч (паэта Казімер Сваяк). Таксама захаваліся рэлігійныя рымска-каталіцкія кнігі, як езуіцкі катэхізыс XVI стг., друкаваныя пабеларуску кірыліцаю.

Каталіцкай Царкве, а сама гэтая Царква мала ў Беларусі прапорцыянальна невялікую колькасьць вернікаў. Справа радыкальна зьмянілася зь перасьледаваньням а з часам і скасаваньням вуніі. Тады расійскі ўрад, каб зрабіць моральную перашкоду да пераходу вуніятаў у лацінства, забараніў ужываньне беларускае мовы ў Рымска-Каталіцкай Царкве. Адгэнуль, заміж беларускае, у Рымска-Каталіцкай Царкве запанавала мова польская і сама гэтая Царква борздым тэмпам што раз болей а болей з гледзішча культурнага робіцца царквой польскай. Чаму дыкжэ мова польская а не расійская запанавала ў Каталіцкай Царкве ў Беларусі? Расійскай мовы ніхто не хацеў у Беларусі, а да польскай у Беларускай Рымска-Каталіцкай Царкве позытыўна ставілася або й зычыла яе тая невялічкая мяншыня ейных вернікаў, звычайна арыстократыя, што была пад польскім уплывам. Бальшыня Беларусаў-рымскіх каталікоў, што фактычна была супроць польскае мовы ў касьцеле, не магла выступаць супроць яе, бо гэта пры забароне мовы беларускае, раўнялася-б ходаньню за мову расійскую, а яна яе не хацела. Апрача таго, расійскае мовы нідзе ня было ў Каталіцкай Царкве, а польская мова была ў гэтай Царкве ў Польшчы. Пераканаць-жа расійскую адміністрацу, пры яе цямноце, што рымска-каталікі — гэта Палякі, ня было цяжка.

Перш чымся пярэйдзем да рэзультатаў, да якіх прывяло перасьледаваньне, а з часам і скасаваньне расійскім урадам Беларускай Вуніяцкай Царквы, я хачу тут засьцерагчыся. Царкоўная справа ё ў нас справаю далікатнай, дражнячай; дзеля таго валей было-б яе не чапаць, калі-б яна не належыла да гісторыі нашага народу. Але дзеля таго, што яна належа да гісторыі беларускага народу, то нельга яе абмінуць. Гісторыю свайго народу мы мусім знаць. Я падыходжу да гэтае справы вылучна з гледзішча нацыянальнага. Із свайго гледзішча нацыянальна-маскоўскага падыходзіў і расійскі ўрад перасьлядуючы й касуючы вунію. Таксама, як з гледзішча польскага, а не каталіцкага, падыходзіў і мала каталіцкі польскі ўрад, калі, паміж дзьвюма сьветнымі войнамі, рабіў націск і агранічэньні праваслаўным, а ў канцы і рухаў праваслаўныя цэрквы з мэтаю давесьці да пераходу праваслаўных на каталіцтва. Тады нацыянальна-сьведамыя Беларусы-каталікі, у тым ліку й беларускія каталіцкія сьвятары, ані ня прыялі гэткаму дзеяньню польскае адміністрацы, але наадварот усюдых выступалі супроць яго. Розьніца тут паміж Маскоўцамі а Палякамі, з аднаго боку, а намі, з другога, тая, што мы баронім свабоду сумленьня, а яны яго ґвалтуюць. Трэба ведаць, што ці перасьлядуюць Беларусаў праваслаўных, ці Беларусаў каталікоў, заўсёды перасьлядуюць Беларусаў. Ды трэба наагул сказаць, што, з выняткам перасьледаваньня выступнікаў, усякае перасьледаваньне ўсюдых шкоднае і зь ім трэба ходацца.



Маскоўцы перасьледавалі іншыя веры і іхных вернікаў змушалі належыць да Маскоўскае Праваслаўнае Царквы, бо гэтая Царква здаўна, ужо ад Андрэя Багалюбскага ў XII стг., мае служэбную ролю ў дачыненьню да маскоўскага народу і да маскоўскага гаспадарства. Гэта згаджалася з агульнай маскоўскай нетолеранцыяй, зь імкненьнямі ўсё нівэляваць, падгапяючы пад маскоўскі капыл. Адылі жыцьцё ставіла граніцы гэтым імкненьням, бо ніякія людзкія імкненьні ў сваім ужыцьцяўленьню ня могуць быць безгранічнымі. Адзіны Бог безгранічны. Найперш і найбольшыя агранічэньні ў рэлігійным перасьледаваньні, агранічэньні, выглядаючыя на поўную толеранцыю былі зроблены Маскоўцамі ў дачыненьню да Ўсходу. Ніводная іншая, апрача маскоўскага праваслаўя, хрысьцянская вера, а таксама жыдоўская, ня была дазволена ў Маскоўскім гаспадарсьцьве. Прыкладам, калі ў першай чэцьверці XVII стг. Маскоўцы мусілі прыняць за свайго цара каталіка, князевіча Валадзіслава, дык, як адну з бодкаў умовы зь ім, маскоўскія баяры выставілі дамаганьне, што „если бы кто-нибудь из людей Московского государства, по тупоумию своему, перешел из православия в католичество, да будет казнен смертной казнью". Акупаваўшы Беларусь, і Іван Грозны і Аляксей Міхайлавіч загадалі Жыдоў тапіць. Але іслам у Маскоўшчыне быў заўсёды і ня было спробаў яго зьліквідаваць. Таксама буддызм. І паганства ў Расіі заставалася данядаўна. У гэтым да некаторае меры талерантным дачыненьню да Ўсходу пры поўнай нетолеранцыі за Заходу, нельга ня бачыць усходняга, азіяцкага характару самае Масквы. Але калі Расія захапіла шмат заходне-эўропскіх земляў, як Беларусь, Лятува, Латва, Эстоня, Украіна, Фінляндыя, Польшч, дык яна й тут мусіла зрабіць некаторыя агранічэньні ў сваім імкненьню наварачаць прынукаю на маскоўскае праваслаўе. Ад такое прынукі звольнена было рымскае каталіцтва, хоць агранічэньні што да яго былі. У лепшым палажэньню былі протэстанты, як дзеля таго, што іх было ма-

ла ў Расіі, так і дзеля ўплыву ўнутры Расіі протэстантаў Немцаў, ды Фінляндыя ўвесь час была аўтономнай.

Просьле даўгога перасьледаваньня Беларускае Вуніяцкае Царквы (ад 1772 г., а на землях, што забрала Расія ўперад, і раней) Царкву гэтую расійскі ўрад у 1839 г. скасаваў. Гэта мусіла выклікаць глыбокае псыхічнае патрасеньне ў шырокіх масах народу. Было зроблена ўсілства, ґвалт над сумленьням колькіх мілёнаў людзёў. Гэта быў заразом гвалт нацыянальны. З утратаю свайго гаспадарства Беларусы пад маскоўскім ярмом утрацілі ўсі іншыя свае арганізацыі — арганізацу земскую, мескую аўтономію, свае школы, права, суд. Як было зацемлена вышэй, была зьліквідавана Беларуская Праваслаўная Царква — Маскоўцы абярнулі яе ў маскоўскую Царкву ў Беларусі, была зьліквідаваная й Беларуская Рымска-Каталіцкая Царква — яе Расійцы аддалі Паляком. Цяпер па ліквідацы найчысьленейшае Беларускае Царквы Вуніяцкае ў беларускага народу нічога, ніякае арганізацы не засталося. Ён быў паняволены й абдзерты з усяго чыста свайго тысячагодняга багацьця. Настала арганізацыйная й культурная пустыня, па якой гуляў маскоўскі вецер-віхор.

Жыцьцё рэліґійнае найглыбей працінае істоту чалавека. Дзеля таго ліквідаца Беларускіх Цэркваў была выступам ці не найшкаднейшым, а зь іх напэўна найшкаднейшым была ліквідаца Вуніяцкае Царквы, дзеля яе апрычонага, вылучна беларускага характару, што мала асаблівае значаньне па ліквідацы дзьвюх іншых Беларускіх Цэркваў. Ад расійскае Царквы Праваслаўнае Вуніяцкая Царква розьнілася доґматамі й арганізацыйна, ад польскае Рымска-Каталіцкае Царквы яна розьнілася абрадам і ўзноў арганізацыйна. Вось-жа гэта была апрычоная свая вялізманая арганізацыя. Дык такая-ж была і яе страта. Людзі, умеючыя ацэневаць гісторычныя здарэньні, даходзяць да перакананьня, што прычынаю цяперашняе асталасьці Беларусаў ад Украінцаў а Лятувісаў ёсьць скасаваньне Беларускае Вуніяцкае Царквы. Бяз гэтага скасаваньня Беларусы не асталіся-б ад іх, а мо, яшчэ іх выперадзілі-б, як гэта было ў мінуласьці.

Зьліквідаваўшы арганізацы беларускага народу, Маскоўшчына накідала Беларусам арганізацыі маскоўскія, горшыя за беларускія, прымітыўныя й барбарскія, а найгорш, што чужыя й варожыя. Гэта ўжо было гарэй за пустыню. Дыкжэ Беларусаў-вуніятаў прынукалі, фізычнай прынукаю прынукалі належыць да расійскае Царквы. Адзіным ратункам было схавацца із сваім вуніяцтвам у вадданай Расійцамі Паляком Рымска-Каталіцкай Царкве, вось-жа ўжо Царкве польскай. І яны хаваліся, прыкідаваліся спрадвечнымі рымскімі каталікамі.



Кадзе менаванае зышлося з наважанай пляновай акцыяй з боку польскага да палячэньня беларускае народнае масы — шляхты й мяшчан, чаго за Рэчыпаспалітае ня было. Утраціўшы свае гаспадарства, Палякі наважылі ўзмацніцца коштам паленізацы этнічна чужое беларускае масы, да чаго, побач із Касьцёлам, найлепей гадзілася школа. Першым на чале поленізацыйнае школьнае акцыі стаяў куратар Віленскае школьнае акругі, спалячаны маґнат, князь Адам Чартарыскі, прыяцель цара Аляксандры І-га. Вось-жа тыя зь Беларусаў, што не русыфікаваліся ў расійскай Царкве і расійскіх школах, былі заганяныя Расійцамі да польскага Касьцёла і польскіх школаў, дзе іх прымалі й абраблялі. Можна сабе прадставіць якая пры гэтым была дэмаґоґія: ня вылазь, хавайся із сваім беларускім, бо гэта сьветча пра твае вуніяцтва, дык мусіш належыць да расійскае Царквы, а польшчына цябе ад яе абароне. [1])

Вось тады й запанавала сярод былых вуніятаў, заміж ранейшага вуніяцкага багагласьніка, польская кантычка і некаторая іншая польшчына ў рэліґійным жыцьцю. Гэтак, каля трайціны вуніятам удалося схавацца. Але іншыя „упорствующие" былі выкрытыя й прынучаныя належыць да расійскае Царквы. Тыя адылі, што даўжэйшы час хаваліся ў польскім каталіцтве, прывыклі да некаторае польшчыны ў рэліґійным жыцьцю, і яна ў іх, дарма што ўжо праваслаўных, засталася да нядаўных часоў або нат дагэтуль. Ё ведамы верш Багушэвічаў „Хрэсьбіны Мацюка" пра наварачаньне Беларусаў-рымскіх каталікоў на расійскае праваслаўе. Відавочна, расійскія дзейнікі падазравалі, што яны былі вуніятамі, але даводаў на гэта ня малі, дзеля таго наварачаньне абмежылася „хрышчэньням" — роскамі — „з туташніх ды ў Палякі". Звыш паў мілёна былых вуніятаў перайшлі з расійскага праваслаўя ў польскае ка-

[1]) Дэмаґоґія гэтая трывала яшчэ ў XX стг., да першае сьветнае вайны. Тады казалі: „Ня прызнавайцеся, што вы Беларусы, бо мусіце вучыцца рэлігіі парасійску". І так запраўды было.

таліцтва ў 1905 г., калі гэта было дазволена. Іншыя або прывыклі да праваслаўя альбо засталіся ў ім дзеля таго, што ня было Царквы Вуніяцкае. Дыкжэ вуніяты ня толькі былі прывязаныя да свае веры з гледзішча догматычнага, але яшчэ болей да свае собскае царкоўнае арганізацыі. Дзеля таго чужая царкоўная арганізацыя і чужы абрад былі часта непераможнаю перашкодаю да пераходу ў лацінства як зараз па скасаваньню вуніі, так і ў 1905 г. Пра гэта ё ня мала сьветчаньняў[2]).

Гэтта на месцу будзе зацеміць, што — ня так як Сэрбы а Харваты — Беларусы каталікі й праваслаўныя ня толькі таго самага паходжаньня, але й маюць тую самую гісторыю й культуру, жывуць перамешаныя на тэй самай тэрыторыі, гамоняць тымі самымі гаворкамі беларускае мовы, маюць тыя самыя звычаі, — адным чынам, апрача веры й царквы, нічым ня розьняцца адны ад адных. Дыкжэ вялікая заслуга беларускага адраджэнскага руху і ў тым, што ён нішча зваду паміж Беларусамі праваслаўнымі а Беларусамі каталікамі, часта даслоўна роднымі братамі, прыводзе іх да згоды, адзіноча ў нацыянальным жыцьцю.

Шляхта ня ўся была сполёнізаваная, ня толькі праваслаўная, якой шмат у Случчыне, у Клімавіцкім павеце і ў некаторых іншых

---

[2]) У полк, у каторым я служыў у Расіі ў часе першае сьветнае вайны, раз прыслалі блізу адных Магілеўцаў (крыху было Віцябчан). Яны былі ўсі праваслаўныя. Я, будучы тады ахвіцэрам, маў некаторую магчымасьць нацыянальнага ўсьведамляньня, каторае й павёў сярод гэтых Магілеўцаў. Па нядзелях яны прыходзілі да мяне, я апавядаў пра беларускую мінуласьць, даводзіў патрэбу адраджэньня, чыталі беларускія кніжкі (прыслаў іх із Пецярбургу праф. Эпімах-Шыпіла), пялі беларускія песьні. Не абыходзілася бяз бліноў і верашчакі. У нас было запраўднае сяброўства, як паміж родзічамі, зн. людзьмі таго самага народу. Адноўчы ў будні дзень увечары неўспадзеўкі прыходзе да мяне іх 4-х із таямнічымі мінамі. Кажуць, што хочуць штось важнае папытацца. Няго-ж, думаю, захацелі рабіць паўстаньне?

— Вось, кажуць, мы даведаліся ад вас, што была Беларусь і мае адрадзіцца. А мы чулі, што ў нас калісь была вунія. Ці Беларусь гэта тое самае, што вунія?

Я адказаў, што вунія і беларускае адраджэньне — гэта дзьве сусім розныя справы. Можна быць якое хаця веры і імкнуцца да беларускага нацыянальнага адраджэньня. На гэта пачуў адказ: — А мы хацелі-б, каб была вунія.



мясцовасьцях, але й рымска-каталіцкая. Беларускія пісьменьнікі й поэты XIX стг., з выняткам аднаго рана трагічна загінулага Паўлюка Бахрыма, былі із шляхты, у бальшыні рымска-каталікі, у тым ліку магнат Альгерд Абуховіч. Бацька беларускага адраджэнскага руху, Пранціш Багушэвіч, і піонеры гэтага руху Браніслаў Эпінах-Шыпіла, браты Іван і Антон Луцкевічы, Вячаслаў Іваноўскі — таксама з драбных паноў.

Дый да апошняга часу ня ўся беларуская шляхта рымска-каталіцкае веры ідэялёгічна сполёнізаваная, а моўна і наагул этнографічна яшчэ меней. Пра гэта сьветча і рэцэнзэнт „Надбярэзінцаў" Чарнышэвічавых Мэльхіор Ванькові́ч, польскі пісьменьнік із Беларусаў; ён кажа, што толькі замажнейшы пласт засьценкавае шляхты зюкае папольску, наймя ён піша: „Контакты мае і контакты нашыя панскія (земяньске) былі із замажнейшым пластом гэтае шляхты, працуючай фізычна на полю... але гаворачай. хоць із беларускай вымоваю, але папольску..."[3]). Пра гэтую найболей сполёнізаваную шляхту Ваньковіч, там-жа на б. 153, піша: „Вось-жа — гэткую засьценкавую шляхту мы зналі. Ляжачую каменям на дарозе гісторыі, аканаваную на загубу, а на вытрываньне — адно ў зычлівай анэкдоце". Ведама, паленізацыя, як і русыфікацыя, псуець людзёў, робе іх горшымі нат з гледзішча польскага альбо расійскага. „На гэтую замажнейшую шляхту стараўся аперцыя пры будаваньню народнай Польшчы на Крэсах Вітас. Стараўся аперцыся — дарма!" (Ваньковіч, там-жа).

Пра захавалую беларускасьць шляхты сьветча й Чарнышэвіч у сваіх „Надбярэзінцах". Гэтак ён піша: „Пазнаў па адзежы й польскай мове, што не заўсёды сустракалася нат у шляхоцкіх засьценках (бач. 137). У шляхоцкай мясцовасьці Аколіца ўсе гутарылі пабеларуску (бач. 155, 156). Таксама шляхта з пад Бялыніч. Часьць шляхты нат ня любе польскае мовы: шляхціч сват пытае маладога, таксама шляхціча: — Ну ці спадабалася-ж табе дзяўчына? — Адным словам дзеўка! — але вось шчабеча папольску", адказаў тый (б. 238). Калі маладая ня хоча сядаць на дзяжы, дык сваця шляхцянка кажа: „Значыць вінавата — баішся! Значыць ты ў хаце папольску пнешся, а за вугламі з хлопцамі трэшся! Гэткая-ж зь ця-

---

[3]) **M. Wańkowicz: Poszerzenie polskości (Kultura, № 10/60, Paryž 1952, 152.**

бе Палячка?: — паднялі крык бялыніцкія бабы" (247). Яны-ж — бялыніцкія шляхцянкі — пяюць на вясельлю беларускія песьні (257).

Аўтар „Надбярэзінцаў" займаецца шляхтаю актыўнай у польскім прасьцінку, у яго яна польская патрыятычная і зюкае папольску. У гэтым нельга ня бачыць польскае тэндэнцыі аўтаравае. Пярэча гэтаму й сама палубеларуская мова аўтаравага твору. Толькі, колькі паказана ў „Ндбярэзінцах", польскага патрыятызму ў масы шляхты не магло быць. А што да мовы, то маглі размаўляць папольску толькі некаторыя з паміж шляхты, а іншыя адно прабаваць размаўляць папольску пры сьвяточных сустрэчах. Пра тэндэнцыйнасьць аўтара сьветча й тое, што на бач. 287 ён падаець за польскую перакладзеную на польскую мову беларускую песьню[4]).

Дарма, што тут не разгледжаныя „Надбярэзінцы" з гледзішча літаратурнага, але нельга не зацеміць, што аўтар іхны мае бяссумлеўны талент. Асабліва жвавая ў твору акцыя.

Адылі цяперашняму нацыянальна сьведамаму беларускаму пакаленьню чытаць „Надбярэзінцы" ня стане цярплівосьці. Мой сын пачаў іх чытаць і кінуў, кажа: „Тэндэнцыя, імпэрыялістычны рамантызм!" І запраўды, гэты імпэрыялістычны рамантызм б'ець із самага твору і зь перадмовы да яго выдавецтва. Такі імпэрыялістычны польскі рамантызм на беларускія землі стварае ніхто іншы, як польскія аўтары з пасярод Беларусаў. Гэтым яны робяць вялікую шкоду як Беларусам, так і Палякам, бо, пакуль такі рамантызм будзе, нельга спадзявацца так патрэбнай згоды паміж Беларусамі й Палякамі.

**Др. П. Янучонак**

---

[4]) Артыкул гэты чытаны быў як рэфэрат у Крывіцкім Навуковым Т-ве Пр. Скарыны. У дыскусі пры тым былы сп. М. Ванькович зацеміў, што аўтар „Надбярэзінцаў" не такі тэндэнцыйны й польска-патрыятычны, як можа выглядаць із гэтага ягонага твору. Справа ў тым, што, пішучы свой першы твор, аўтар уважаў, што польскі твор мусіць быць патрыятычным польскім. У другім сваім твору, што мае неўзабаве выйсьці з друку, Чарнышэвіч быццам накшы; там ягоны галоўны гэрой — беларускі патрыёта.



## RESUME

In his article „From the History of Whiteruthenia in the 19 and 20 century" Dr. P. Janučonak takes up two moments from history of Whiteruthenia (Kryvia, Byelorussia) of that period. One is prohibition by Russian authorities to use the accustomed name Litvania, Litvanians (Litva, Lićviny) and an order to use Whiterussia, Whiterussians (Biełaruś, Biełarusy) instead; the other religious persecution.

The new name was chosen with the intention to represent Whiteruthenia as a part of Russia and at the same time to create a gap in the historical consciousness of Whiteruthenians which would make them forget that their forefathers had been called Litvanians and had fought Russia.

After liquidating the Whiteruthenian state and usurping its territories, Russians in the 18th century not only abolished Whiteruthenian national and local organizations, municipal autonomy, schools, laws etc. but also liquidated the Whiteruthenian Orthodox Church and replaced it by Russian church where the Whiteruthenian language was forbidden. The Russian administration also prohibited the use of the Whiteruthenian language or any expression of national life in the Whiteruthenian Roman Catholic Church. Since that time the Polish language which was not prohibited has been used in the Catholic Church in Whiteruthenia. The Russian administration thus secured the help of the Poles in the struggle with Whiteruthenians. The most persecuted by the Russians was the Greek Catholic Church which served about 2/3 of the inhabitants of the former Whiteruthenian state. Finally in 1839 the Russian authorities liquidated this church and ordered its members to join the Russian church. In order to avoid this, the Greek Catholics tried to join the Roman Catholic Church and about 1/3 of them succeeded, although it was strictly forbidden by the Russian administration. The rest were forced to join, but in 1905 when the prohibition was lifted, over half a million of them became Roman Catholics. Of the rest some got accustomed to the Russian Church and some tried to renew the Greek Catholic Church, but even this was then forbidden.

Persecution of Whiteruthenian cultural and religious life agreed with Russian policy in general, with the despotic, all leveling character of the Russian administration which again corresponded to the character of the Russian nation. However, not all the religions were persecuted in the same measure. The eastern religions suffered the least. There was no attempt to liguidate Islam or Buddhism. Besides the Russian Greek Or-

thodox Church, however, no other Christian Church was allowed until the 18th cent. Death punishment threatened those who would change from Greek Orthodox to the Catholic Church. The Jewish faith was also forbidden. During the occupation of part of Whiteruthenia, Czar Ivan IV in the 16th cent. and Czar Alexei Mikhaylovich in the 17th cent. ordered Jews to be drown. Even later in the 18-20 cent., when already other christian religions and Judaism were allowed, they suffered persecutions and their members were very much limited in their civil rights.

---

**Уладзімер Сядура**

## ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ
## (РАМАН)

Працяг, гл. № 9-10 (14-15)

якіясь дзівы ці чакаў іх, а проста азначыў гэтак свае спадзяваньні на накшы лад у сваім краі.

— Мусіць-жа некалі скончыцца гэтая пякельня... Няўжо наш народ аканаваны на вечнае пекла й панаваньне чарта? Не, ня веру. „Загляне сонца і ў нашае аконца" — праўда заўсёды.

Навіна пра вайну недзе глыбака ўнутры ўзбудзіла неазначаныя надзеі на зьмены. Але якія гэта могуць быць зьіначаньні, ён сабе ня мог сказаць. Няма ведама, як укладуцца падзеі і які палітычны кірунак прымуць новыя рухі. Адно было бяссупярэчным — хацелася, каб народ вальней уздыхнуў, здабыў сабе чалавечыя правы гаварыць і думаць, што хоча, выбіраць сабе ўрад, які захоча, ставіць над сабойураднікаў, не пасланых чужым урадам, а абраных сваёй-жа спаўняючай уладай, вольна будаваць сваё гаспадарства і культурнае жыцьцё ў родных нацыянальных хормах і кірунках.

І пэўна-ж, каб у гэтую часіну ў яго, пераз усё жыцьцё беспартыйнага, спыталіся, каго-б ён хацеў бачыць верненым да творчага жыцьця, дык ён, мусіць, ня доўга думаў-бы, каб сказаць — „Нацдэмаў!"

Усе яны яму ўяўляліся бязьвіннымі ахвярамі паліцыйнага тэрору, і усе заслугавалі на безадвалочнае зьвярненьне на бацькаўшчыну для дабра народу.

І ўжо памкнуўся ён быў аддацца ўзьнёслай плыні салодкага лятуценьня аб будучай вольнай Беларусі, як раптам, ужо блізу ля самае брамы ягонае хаты, борзды бег ягонае думкі й хаду перапыніў Стась Савіцкі, загаднік аднагадовых вучыцельскіх курсаў. На гэтых курсах колькі дзён на тыдзень увечары Кастанцы даваў лекцыі расейскае граматыкі дзеля прыработку да ягонай невялічкай, зусім недастатнай для жыцьця, платы, якую ён адзержаваў у сваім інстытуце.

Гэта быў тыповы мешчанін зь Менскае Старажоўкі, свайго часу дастаў асьвету і, як і ўся беларуская моладзь пэрыяду 1920-1930 год, быў ахоплены ўплывам беларускага адраджэнскага руху. Аднак, відаць ня глыбака запаў яму ў сэрцы агонь нацыянальнага ўздыму, што — адразу-ж пасьля арышту ў 1930 ён скарыўся, пісаў каятныя заявы, узводзіў блуд на іншых, выдаваў на загад прасочнага ўсіх і ўсё, і, наапошку, згуляўшы ролю правакатара, дастаў сваю порцыю — 5 год адміністрацыйнае высылкі ў ня гэтак далёкія эўрапэйскія часткі СССР. І калі ён зьвярнуўся ў 1935 годзе, дык яму адразу-ж удалося якімсьці парадкам здабыць права быць прапісаным у Менску, што мала хто з тых, што адбывалі кару засланьня або ўвязьненьня ў далёкіх табарах, даставаў подле савецкага закону аб прашпартызацыі.

Затое ён, відаць, таксама быў удзячны ўладам і ня грэбаваў нічым і нікім, каб апраўдаць сваю годнасьць сталага інфарматара.

Тым больш, што ведамыя дзейнікі ахвоча карысталі службай „былых контравалюцыянэраў", як такіх, якіх менш высьцерагаецца жыхарства і да якіх шмат хто можа мець давер, як да свайго такога-ж, што зазнаў пакуты й перасьлед. І пэўна-ж служыў ён рупна, калі вось ужо шосты год жыў у Менску, хадзіў у ўстановы, займаў пасаду і ня быў яшчэ ізаляваны як небясьпечны элемэнт, былы контрык.

Няма ведама колькі ён асобаў загубіў перад тым, як яго ў канцы леташняга году пазнаў Кастанцы. Аднак, на ягоных вачох, ён нешта аж надта часта пачаў давядацца да аднаго добрага Беларуса, загадніка вучэльнае часткі былога Інстытуту павышаньня кваліфікацыі кадраў народнае асьветы, у якім тады Кастанцы таксама працаваў. І нешта ўжо занадта кідалася ў вочы, што ён усё падсядаў да таго—, як кажуць, бяз мыла хацеў у сваякі ўлезьці.

Вось-жа вынік не забавіўся прысьці. Аднае раніцы ў інсты-

туце сталася ведамым, што загаднік навуковае часткі быў арыштаваны органамі НКВД наконадні.

Зь вясны нешта пачаў ён надта начэпна й да Кастанцага із сваймі гутаркамі лішчом лезьці. Ці то ў канцы лекцыяў дзе-небудзь у гардэробе напаткае ды просіць канечна пачакаць, каб ісьці разам да хаты. А тут зыходжаньне запраўднае — жывуць абодвы ў вадным канцы места — Старажоўскім раёне.

Кастанцаму часта ўдавалася адхінуцца ад запрашэньня ці „змыцца" раней, але выпадала, што й разам ісьці даводзілася. І тады пачыналася супярэчка пра тое, ехаць трамваям ці йсьці пехатой. Савіцкі заўсёды ўгавараваў ісьці пехатой, каб больш пагаварыць. Кастанцы — наадварот, але не заўсёды ставала аргумэнтаў, каб давесьці сваё. Вымогі ветласьці да свае ўлады (усёж-ткі дырэктар курсаў) змушалі часамі схінуцца, хаця-ж і ведаў, што не на дабро ягонае ўсё гэта...

Аднаго разу чуць ня сіламоц уперся, каб зайсьціся дахаты да Кастанцага. Пасьля й сам без запросінаў колькі разоў даведаўся. Усё казеліўся вачыма на кнігі на Кастанцавым стале. Але досыць было абеглага пагляду, каб пераканацца, што на тым стале было толькі агульна-дазволенае, што ня будзіла ніякага сумлеву або падазрэньня.

Вось-жа, даведаўшыся колькі разоў, ён усё спадзяваўся засьпець, як кажуць, на месцы злачыну. Але дарма — на стале нязьменна ляжалі ўсё тыя-ж найноўшыя расейскія маскоўскія выданьні, пераважна ў пытаньнях расейскае мовы — Шахматаў, Буслаеў, Багародзіцкі, Вінаградаў, Бархудараў, да якіх ён і сам быў вялікі аматар, бо й сам на гэтых-жа курсах, апрача загадаваньня, выкладаў расейскую мову. Ня гэтых кніжак ён шукаў вачыма, і ня іхны адбітак у думках Кастанцага ён стараўся ўлавіць у гутарках зь ім.

Не, ён шукаў праявы таго волатаўскага беларускага духу, які кіраваў тысячы Беларусаў у іхным пасыўным і нявымоўным змаганьні зь дзьябальскай сыстэмай іхнага заняволеньня. Яму трэба было даведацца пра сувязі, знаёмствы, сяброўства, кантакты. Толькі гэта й магло зьявіцца ўдзячным матар'ялам тым, каму ён служыў і перад кім ён шукаў апраўданьня.

Адылі, Кастанцы як-бы неўзнарок стараўся гаварыць із ім толькі на непалітычныя тэмы — пра купаньне за местам у Сьвіслачы, пра лаўбу рыбы, пра прыгожыя кінафільмы. Дарма, што той стараўся зьвесьці гаворку да палітыкі, Кастанцы тактоўна й няўпрыцям ізноў зварочаваў на ўлюбёныя сьцежкі прыгоствау навокальнага жыцьця. Наапошку, Кастанцы спасылаўся на стомленасьць і патрэбу або час супачываць — яны разыходзіліся.



Гэтым разам Стась Савіцкі, узрушаны навіной вайны, а можа й дастаўшы найноўшыя інструкцыі што да асобы паднаглянднага, неяк асабліва жвава, рухава й рэзка рушыў да Кастанцага.

— Добры дзень! — гукнуў на ўсё горла ён яшчэ здалеку. — Я вельмі рады бачыць вас. Ці чулі? — уталопіўся ён у вочы, яшчэ йдучы да Кастанцага. Ягоны від сьвяціўся асаблівай цікавасьцяй.

— Добры дзень, таварыш Савіцкі! — праз зубы працадзіў Кастанцы. — А што такое сталася? Я нічога ня чуў! — наўмысьля злосна дадаў ён, як-бы паказуючы, што ён зусім цяпер не ахвочы да пераліваньня з пустога ў парожнае.

— Ня чулі! Няўжо ня чулі? — мала не пракрычэў прарэзьліва Савіцкі, і ягоны від аж выцягнуўся ад зьдзіўленьня. — Ды якраз паўгадзіны назад Молатаў праз радыё казаў, няўжо Вы ня слухалі?

— Не! Ня слухаў, ня меў нагоды, — сьцюдзена й спакойна, з павагай да сябе адказаў Кастанцы.

— Ну, дык вы й ня ведаеце, што там было абвешчана?

— Не, ня ведаю, калі ня слухаў, — ізноў штучна сьцюдзена казаў Кастанцы.

— Ай-яй-яй, дык гэта-ж ужо ўсе людзі ведаюць!

— А я ня ведаю, даруйце мне!

— Дык гэта-ж ужо вайна! А Вы й ня ведаеце?

— Вайна? Не кажэце дурноты, таварыш Савіцкі, ато яшчэ падумаю, што правакацыяй займаецеся.

— Якая правакацыя? Сам Молатаў казаў. Ужо цэлае паўдня, як баі адбываюцца, пачаў відавочна хваляваццa Савіцкі.

— Зь кім-жа вайна? Зь Немцамі?... Але гэта-ж немагчыма. Не, таварыш Савіцкі, гэтага ня можа быць. Хіба вы ня памятуеце, як колькі дзён таму ТАСС афіцыйна зьняпраўдзіў чуткі пра прыгатову Немцаў да вайны. То-ж вы, спадзяюся, чыталі газэту зь менаваным паведамленьням! Ці можа вы ня чытаеце афіцыйных

урадовых паведамленьняў, таварыш Савіцкі, га? — яўна наступаючы, станаўко пытаўся Кастанцы.

— А як-жа, чытаў, чытаў! — спалохана пачаў шапятлявіць Стась Савіцкі.

— Я ўсё чытаю! — неяк недарэчы сьмешна пачаў ён апраўдавацца. — Але, чытаць то я чытаў, ды цяпер сам таварыш Молатаў казаў у вадумысловым паведамленьні. Гэта было роўна а 12 гадзіне. Нямеччына злачынна ўзрушыла ўмовы пагадненьня і сядня а 4-й гадзіне раніцы напала на наш мірны край. Ужо бамбардуюцца нашыя месты, ідуць зацятыя бітвы. Нашыя доблесныя байцы адбіваюць атакі крыважэрных фашыстых, — сьпяшаўся ўсё выгаварыць і тым самым як-бы абясшкодзіць магчымыя дакоры ў ідэялегічнай нявыдзержанасьці ды аж успацеў бедны Савіцкі.

Тут ён на часіну забыўся быў на сваю беспасярэднюю мэту наступіць на Кастанцага з цэлым войрахам пытаньняў і заміж агрэсіі неўспадзеўкі перайшоў да абароны. Кастанцы із здаваленьням зацеміў удаласьць свайго манэўру ды пачаў гаварыць лагадней.

— Дык гэта ня жарты, а я думаў...

— Што Вы, што за жарты такім часам!

— Дык, значыцца, запраўды вайна?

— Ды вайна, вайна, кажуць-жа вам, пэўна вайна, — аж віскануў той ад зразуменьня, што наапошку ткі даходзе, і ён можа пачуе Кастанцаў камэнтар.

Але Кастанцы і далей быў негаваркім. І толькі разважліва, дзеля ідэялегічнае профіляктыкі із свайго боку, дадаў:

— Ну, дык будзем ваяваць, калі вайна.

— Фашыстыя будуць зьнішчаныя й выкінутыя за межы нашага краю, — скончыў Савіцкі больш манючыся пачуць Кастанцаву думку пра гэта.

— Калі Вы кажаце так, дык пэўна-ж будуць выкінутыя й зьнішчаныя, — згадзіўся Кастанцы. — Толькі давядзецца ўсім ісьці на фронт і ваяваць, і Вам таксама! — падчыркнена скончыў Кастанцы, ізноў наступальна гледзячы проста таму ў вочы.

—А я й не кажу адваротнага, — замітусіўся Стась Савіцкі, заўсёды пачуваючы сябе зьбітым з панталыку, калі заміж плянаванага ім наступу на аб'ект, ён сам рабіўся мішэняй абстрэлу.

— Я заўсёды гатоў, — дадаў ён і зьбянтэжана змоўк.



— Ну, дык і будзьце гатовыя! — праказаў Кастанцы, употай дадаўшы:

— „Уцякаць, падмазаўшы пяткі, да свайго роднага таткі... Памялом вам дарога!"

— Бывайце здаровы, — працягнуў ён руку Савіцкаму так неўспадзеўкі, што той не знайшоўся, чым яшчэ прыдзержаць каля сябе Кастанцага і мусіў неяк мэханічна, супраць свае волі, таксама высунуць яму сваю лапу. На тым гаворка перапынілася, і кажны падыбаў у свой бок.

Кастанцы за колькі сігнёў ужо адчыняў весьніцы свайго дому.

— І прынесла-ж гэтую немарач такім часам, як насланьнё якое. Час такі, што, здаецца, доля кажнага зусім зьіначуецца, а гэты Савіцкі, як той накручаны гадзіньнік, усё яшчэ аддаець сваё старое даўно абрыдлае да сьмерці рыпеньне. Прападзі ты прападам! — праказаў ён і злосна плюнуў.

Толькі тут ён цяпер зацеміў, як сонца, быццам у печы, нагрэла брукаваны панадворак. Яно стаяла проста над галавой. Толькі невялічкі сьцень каля самае хаты сьветчыў, што яно ледзь—ледзь сьхінулася ў бок ад стацьцявога над галавой стану. Трава пад плотам, бацьвіньне на гаспадыніным гародчыку, лісьцё на дрэвах абвісла ад гарачыні й хіба спарылася. Ветрык ня кратаў яго. Духата валодавала ўсім. І толькі ў сенцах—прыбудоўцы Кастанцы адчуў асалоду ад халадку, якім яго абдало, быццам сьцюдзёным душам Шарко.

### 2. ТОЙ ПАМЯТНЫ ВЕЧАР

Другая палавіна дня аж да вечару не пакінула ў памяці Кастанцага нічога выразьлівага. Тая-ж няпэўнасьць чаканьня магчымых пераменаў і навінаў панавалі скрозь — і ў хатах, і на вуліцах, і ў сэрцах людзёў.

Неяк падвечар Кастанцы выбраўся прайсьціся местам, каб ухапіць ягоны абраз у гэты першы вечар, калі вайна яшчэ не кранула яго беспасярэдне. Яшчэ пакуль што ён не зазнаў ні бамбардаваньня, ні фронтавых баёў. Аднак ваенная небясьпечнасьць дзесь прыхавалася моўчкі і нябачна выглядае, каб неўзабаве ашчэрыцца ўсімі страхамі сваймі.

Нейкімі асабліва прыціхлымі яму выдаліся вуліцы гэтага вечару. Хоць яшчэ па старой інэрцыі яны былі запоўненыя натоў-

пamі прахаджанаў, але патаемны страх ужо паклаў свой сьлед на людзёў. У натоўпе ўжо не адчувалася беспасярэдняе маладое гаваркосьці ды пярэстасьці галасоў. Праўда, таго вечару яшчэ пастарому працавалі кінотэатры, і опэрны тэатр даваў свой чародны паказ. У тэатры Дому Чырвонае Арміі навет мусіў яшчэ адбыцца паказ Маскоўскага Мастацкага Акадэмічнага Тэатру, які кагадзе прыехаў на свае гастролі ў Менск і якраз надовечы пачаў сваю працу. Афішы рэклямавалі знаныя прозьвішчы Масквіна й іншых. Здавалася, агульны рытм жыцьця яшчэ нічым ня зрушыўся.

Але ўжо першыя трамвайныя асьвятленьні цьмянага сіняга колеру ды завешаваньні сінімі папяровымі завесамі вітрынаў магазынаў ды вокнаў дамоў можа найперш далі зразумець кожнаму, што запраўды йдзе ўжо вайна. У гэтых праявах можа ўпяршыню слова „вайна" пачало прымаць канкрэтны зьмест.

Прайшоўшы ўздоўж галоўнае вуліцы і адчуўшы асабліва балюча гэтага вечару сваю адзінотнасьць і пакінутасьць, Кастанцы падаўся дадому. Толькі на паўдарозе перадумаў і павярнуў у бок Пярэспы, дзе на адным з ускрайных селішчаў жыў ягоны адзіны сябра Язэп. Гэта быў адзін із вялікага ліку сяброў маладосьці, унівэрсытэцкіх год, пісьменьніцкіх пачынаньняў і спадзяваньняў, якіх пасьля кон усіх параськідаў у далёкія выгнаньні. Гэты адзіны дзівам захаваўся.

Быў ён чалавекам зусім не падобным да ўсяе тае бальшыні ягоных аднагодкаў, што запоўнілі сьцягі новае інтэлігенцыі. Паходзячы із сялянаў дзесь з Аршанскае акругі, ён, відаць, змалку перазь літаратуру, да чытаньня якое быў вялікі ахвотнік, увабраў у сябе лепшыя запаветы творцаў клясычнае мастацкае спадчыны і пераняў ад іх разуменьне чалавечае годнасьці й каштоўнасьці.

Таму ў сваім творсьцьве і ў жыцьці ён заставаўся заўсёды чалавекам. Ня йшоў крывымі шляхамі прытарнаваньня да сыстэмы, не патураў вымогам паказаваць „соцыялістычных гэрояў". Ягонымі гэроямі звычайна былі або малыя дзеці, якія яшчэ не пасьпелі паддацца агульнаму псаваньню, або старыя разважлівыя людзі, філёзофы з народных гушчаў, што выстаялі сваю асобу ў завірухах жыцьця і астоіліся ў самастойныя, нязломныя арыгінальныя характары. Таму й цкавала яго напераменку крытыка, як рэакцыйнага „асталага" пісьменьніка. Даўгія пэрыяды,



па колькі год, не друкаваўся. Пасьлей, як сьціхалі крыху пагромы беларускае літаратуры, ізноў пачынаў зьяўляцца, апошнімі часамі зь дзяцінымі апавяданьнямі пра буслоў, лясных зьвяроў ды палявых тубылцаў.

Гэтак і абмінаў ён пакрысе абавязкавы кажнаму пісьменьніку ў саветах „соцыяльны заказ". Ні ў якія арганізацыі ня лез, да высокіх пасадаў ня пнуўся, перакідаючыся на невялічкіх тэхнічных пасадах, наводле, „літаратурна-стылістычнага рэдактара" ці карэктара пры выдавецтвах. Прынцыповая беспартыйнасьць і адасобненасьць, абумоўленая ёю пасыўнасьць у сэнсе грамадзкім, замкнёнасьць у сваім асабістым сямейным жыцьці ратавалі яго ў часох пагромаў беларускае інтэлігенцыі. Частая зьмена пасадаў, пакіданьне надоўга Менску і праводжаньне часу на сяле, зьдзержлівасьць, каб лішняга слова не сказаць, прыялі ягонаму пераховаваньню і рабілі яго выняткаваю зьяваю сярод беларускае інтэлігенцыі. Гэта быў выпадкавы недасек у поўным сэнсе гэтага слова.

Ягоная жонка, Жлобінянка, былая мэдычная сястра, надораная моцным пачуцьцём замілаваньня да сямейнага жыцьця, абыходлівая зь людзьмі, уважлівая да сям'і, рабіла ўсё магчымае, каб водар сямейнага шчасьця ня траціў свае моцы.

Гадуючы адзінае тым часам дзяцё, хлопчыка год шасьцёх, яны ўмелі досыць утульна абставіць невялікую гасподу ў дзярвяным стандартным, местачкавага тыпу дамку.

Паліцы з кніжкамі клясычнае літаратуры найноўшых выданьняў, мяккія канапы па бакох, радыё і настольныя электралямпы на стале адразу выклікалі адчуваньне ўтульнасьці, й прыемнасьці ў давяданьніка. Ветла-зычлівае перайманьне й абыходжаньне з госьцьмі самое гаспадыні, маладое, высокае, вясёлае і ў сваёй весялосьці прынаднае, разам із шчырасьцяю гаспадара рабілі рэдкія даведаваньні да гэтае сям'і заўсёды жаданымі й памятлівымі Кастанцаму. Ды гаспадары й самі былі радыя яго бачыць. Відаць, бязьлюдзьдзе імі адчувалася, як далёка ненармальная зьява, хаця-ж, здавалася-б, маглі ўжо яны зь ім з гадамі звыкціся й зжыцца, як із няўніклай адзнакай даўгіх благіх часоў ці, можа лепш сказаць, гэтага бяшчасься.

Толькі ў гэтай адзінай у сьвеце сям'і Кастанцы і мог гаварыць, што яму падказавала сумленьне, розум і сэрца. Яны із сябрам удвох праседжавалі часам за поўнач, знаходзячы суполь-

